Цана асобнага нумару 10 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 3 (54). Вільня, Субота 8 студня 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Вольная, Незалежная, Злучаная Беларусь!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ПОЛАЦКАЯ 4. (WILNO, POŁOCKA 4).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцаў 4 зал., на год — 8 зал.
Дзя заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

Выходзе два разы ў тыдзень — у сераду і ў суботу нараніцы.

## Даўно пара.

Усе польскія партыі, пасьля заняцьця Пілсудскім беларускіх зямель, хлынулі ў наш край, каб сярод Беларусаў вяесьці польскую працу, каб знайсьці сабе ўплывы сярод нашага насяленьня. Цямнейшыя гушчы нашага народу паверылі некаторым агітатарам чужымцам-Палякам, якія выступалі пад беларускай маскай і на'т аддалі за іх галасы пры выбарах. Такім чынам, у віленскім вокругу мела пэўны пасьпех „Вызваленьне“, а на Палесьсі ППС. Але ашуканствам ня доўга прышлося гэтым партыям туманіць нясьведамую частку насяленьня Заходняе Беларусі. Ужо ў 1924 г. пачало трашчэць „Вызваленьне“ і фактычна цяпер, можна сказаць, што гэтая партыя на беларускіх землях зусім пахавана. Польскую партыю сацыялістычную спаткала такая самая доля. Праўда, дзякуючы таму, што гэтая партыя арудавала на Палесьсі, якое найдалей ляжыць ад культурных беларускіх цэнтраў, удалося ёй прытрымацца крыху даўжэй. Перад сваей сьмерцяй партыя ППС хапілася на'т за думку, каб выдаваць свой орган на расейскай мове. Шмат грошы на гэта затраціла, але ніхто не хацеў чытаць гэтае газэты, бо Беларусы ўжо добра ведаюць, што ўсе польскія партыі хочуць толькі аднаго: якнаймацней прыціснуць нашага селяніна, як найбольш яго эксплёатаваць, якнайбольш выкарыстоўваць яго і сілай прымацаваць да Польшчы. І канец канцом партыя ППС злажыла свае манаткі, зачыніла „Красное Знамя“ і дала дралу з нашых беларускіх зямель. Даўно пара было гэта зрабіць.

Можна падумаць, што калі „Вызваленьне“ на нашых землях развалілася, а ППС уцякла, дык усе польскія партыі пакінулі Беларусаў у супакоі, пакінулі іх пад апекай толькі беларускіх партыяў. Не. Палякі і далей вядуць сваю працу на нашых землях, бо вельмі шкадуюць нас выпусьціць з сваіх рук. Але цяпер ім удалося вельмі добра замаскавацца, бо на'т некаторыя беларускія дзеячы ня могуць пазнаць іх запраўднага твару. Дык вось гэтай партыяй, якая вядзе і далей польскую працу на нашых землях, ёсьць „Niezależna Partja Chłopska“.

У гэтую партыю яе спрытны павадыр патрапіў уцягнуць некалькі асоб беларускага походжаньня: Галавач, Шапель і інш. і прыказаў ім каб лаялі польскі ўрад, каб прамаўлялі да народу пабеларуску, каб быццам дамагаліся зямлі для сялян, а сам у Варшаве робіць згаворы з іншымі Палякамі, каб беларускія землі замацаваць пры Польшчы. Мала таго, што ў гэтай партыі знаходзяцца дагэтуль, як ужо ўспомнілі, сыны нашае вёскі, якія зусім не разумеюць, што іх павадыр вядзе палітыку згубную для беларускае справы, гэтая партыя патрапіла прыкамрацiцца да „Грамады“. У сувязі з гэтым „Грамада“ пачала бараніць гэтую партыю і гэтым памагаць ёй вясьці польскую працу на беларускіх землях. З гэтай працай Беларусам цяжэй змагацца, бо калі проці Вызваленьня і ППС выступалі ўсе беларускія партыі, то цяпер проці польскай незалежнай партыі хлопскай выступае Сялянскі Саюз і Бел. Хр. Дэм., а „Грамада“ бароніць яе. Вось гэтая абарона ёсьць красамоўным прыкладам двуліцовай палітыкі грамадоўскіх павадыроў, якія слухаюць загадаў з Варшавы, а ў беларускія гушчы пускаюць лёзунгі, што яны хочуць вызваліць беларускі народ з пад улады польскіх паноў і буржуяў. Пакуль будзе цёмны наш селянін, датуль „Niezależna Partja Chłopska“ з „Грамадой“ будуць туманіць галовы нашаму сялянству і скіроўваць аружжа не проці нашых ворагаў польскай буржуазіі, але проці беляруская сялянства. Але ўжо надыходзяць весткі, што сялянства пачынае разумець фальшывую працу ўсіх польскіх партыяў і незалежнай партыі хлопскай і яе абараніцельніцы. Арганізаванае сялянства павінна будзе сказаць ім: „Марш у Варшаву, там рабіце сваю палітыку; мы будзем самі гаспадарамі, самі падзелім сваю зямлю“.

*А. Незалежнік.*

## АСНОВЫ БЕЛАРУСКАЕ ШКОЛЫ.

У цяжкіх муках родзіцца беларускае школа ўва ўсіх частках падзелянае Беларусі. Мы можам казаці, што ў Радавай Беларусі толькі адносна справа разьвіцьця беларускага школьніцтва стаіць ляпей, чымся ў Заходняй Беларусі, ды можна сказаць нават, у Беларусі пад Латвіяй. Прычын на гэта шмат. Перадусім страх нашых ворагаў — пераможцаў, якія баяцца, каб беларуская моладзь праз сваю родную школу не магла пабачыць усю ману і атруту чужога выхаваньня, а разам з гэтым не магла-б адчуць тое згубнае зьявішча рэнэгацтва, якое гэтак імкнецца разьвіць чужая школа.

Аднак усе натугі нашых няпрыяцеляў дарэмныя, бо кожнаму ясна, што раз народ паўстаў да жыцьця, то раней ці пазьней гэтыя перашкоды на шляху да здабыцьця „матчынае“ роднае школы, будуць зьнішчаны. Даказам чаго найкрасамоўней служаць дзясяткі сотняў дэклярацыяў у Заходняй Беларусі з дамаганьнямі свае школы. Дый ніхто ня мае права забараніць родную школу, якая зьяўляецца адзінай інстытуцыяй праўдзівага духовага задаваленьня падрастаючае маладое гэнэрацыі, а разам з гэтым адзнакай культуры і прагрэсу.

Праўду сказаў адзін з сучасных прадстаўнікоў нямецкае пэдагагічнае філёзофіі Бэдрых Паўльсэн (B. Paulsen): ганьба ёсьць XX стагодзьдзя, калі мусім даказваць патрэбу школы нацыянальнай, гэты прынцып ясны і зусім справядлівы.

І нашыя ворагі гэтыя ўсе асновы добра ведаюць у здабываньні сваіх праваў на сваю школу, але ня хочуць чуць і ведаць у адносінах да нас! Яны выкручваюць свой розум, каб як найлепей прыкрыцца ад вочаў культурнага сьвету. Мы бачым і адчуваем, рожныя, гэтак званыя, утраквістычныя школы ня вытрымоўваючыя крытыкі, як з пункту гледжаньня пэдагогічнага, гэтаксама і з практычнага. Мы сьведкамі забароны і прасьледваньня нават, прыватных школ як агульна ўзгадавальных гэтак і адборніцкіх (спэцыяльных). Але ніщто ня можа стрымаць націск жывое народнае сілы. Беларускі народ крок за крокам, пэўна і рашуча, адваёўвае сабе школу, а мо' у гэтым змаганьні ёсьць зарука на нашу школу, запраўды баларускую г. ё. беларускую па духу, ці лепш кажучы, уласную па сваім вонкавым і ўнутраным асаблівасьцям.

У сучасны момант стан нашага школьніцтва вельмі непацяшаючы. У Заходняй Беларусі (пад Польшчай) на $2\frac{1}{2}$ міл. Беларусаў маем усяго 4 гімназіі (Віленская, Радашкоўская, Наваградзкая, Клецкая), ды адну пачатковую, прыватную школу.

У Беларусі пад Латвіяй школьніцтва ў параўнаньні з лікам насяленьня Зах. Беларусі, стаіць крыху ляпей. Ёсьць 2 гімназіі дзяржаўныя (Дзьвінская ды Люцынская, якая ў апошнім годзе была зачынена) і трохі болей, як пад Польшчай пачатковых школаў.

Аналёгічна справа беларускага школьніцтва стаіць і ў Усходняй Беларусі (пад РСФСР), дзе толькі ў Гомельшчыне (цяпер далучаная да БССР) маюцца беларускія школы ды і тыя ў вельмі абмежаным ліку.

Радавая Беларуская Рэспубліка ў межах перадусім сацыяльнага выхаваньня, а пасьля нацыянальнага (ніколі пабач!), рэлятыўна да іншых частак падзелянае Беларусі стаіць добра. Але наколькі і там далёка да сярэдняга стану задаваленьня патрэбаў асьветы, найкрасамоўней кажуць лічбы самі за сябе: На 1000 асоб прыпадае толькі 327 асоб пісьменных (граматных). Дзяцей у школе ад 8 — 11 г. вучыцца 68% (процантаў); ад 12 — 15 г. дзяцей у школе вучыцца 12% ў месьце і 6% у вёсках. (Глядзі „Доклад совета народных комисаров БССР совета нар. ком. ССРР. Материалы к докладу Адамовича, Минск 1926 г.).

Вось які непацешны стан нашага школьніцтва ў кароткіх словах.

Зразумела, што і гэтыя адваёваныя ўжо беларусамі школы, налічваюць пэўны кадр настаўніцтва. У вялікай большасьці яно папрыходзіла з чужых вучыцельскіх сэмінарыяў або іншых пэдагагічных інстытуцыяў (з расейскіх або польскіх) частка, нават, працуючая з матэрыяльных выгадаў, чужая па духу і рожналітная па прыгатаванасьці. Вось гэтая-ж настаўніцтва і мае на мэце тварыць аднолітасьць беларускае школы, тварыць дух беларускае школы, разьвіваць і насаджываць беларускую культуру ў юнацкіх душах і масах.

Рожныя адміністрацыйныя парадкі, культурныя ўплывы, пэдагагічны такт, усё гэта

# Куцьця бяздольных.

(апавяданьне з меставага жыцьця).

Зьліжалася куцьця... У Вільні на вуліцах рабілася неспакойна: людцы шмыгалі ўзад і ўперад па сьлізкіх замерзлых ходніках некаторыя, няспрытна адступіўшыся, валіліся, але ўраз-жа падніmаліся стыдліва і беглі далей.

Прад куцьцёй і Калядамі найболей клапаціліся гаспадынькі; на вуліцах і перавулках толькі іх і відаць было, абчэпленых рознымі рэчамі, ядомінай і інш.

Марозік з ветрыкам рабіў усім шчочкі ружовенькімі.

„Малады чалавек“, гадоў пад сорак, стаяў на рагу Вялікай і Сьвята-Янскай вуліцы і ахвотна прыглядаўся да руху на вуліцах, кідаючы вачыма на ўсе бакі.

Меў на сабе вясеньнюю стараватую пальціну і... брыль.

Відаць холадна было яму, бо і каўнер пальта наставіў і скорчыўся.

Нос меў нязвычайна шырокі, у гару задзёрты і вочы піўныя, страшэнна вялізныя; твар тоўсты, шырокі.

Блізка гадзіны прастаяўшы гэтак, ён раптоўна схамянуўся, зьняў брыль з галавы сваей і пачаў махаць... Праз дарогу падыходзіла да яго знаёмая жанчынка — абчэпляная з ног да галавы „пакункамі“.

Была змучыўшыся... Пот выступаў на прыгожай, распаленай твары.

Заўважыўшы яго, махаючага брылем, нясмачна неяк ухмыльнулася і ўжо манілася бокам каля яго прайсьці, але ён затрымаў яе, кажучы:

— Васпані дазволіце, дык з вялікай радасьцю памагу вам нясьці...

Яна адвярнулася і, з падзякай глянуўшы на яго, затрымалася.

У адну хвіліну Піліп (так звалі гэтага „маладога чалавека“) абчапіўся ейнымі пакункамі і яны ціха пайшлі да ейнае кватэры. За ягоную дабрату, васпані, ідучы наўперадзе, штомінутна да яго адварачвалася, казала яму розныя лёстачкі і ўсьміхалася прыхільна.

Піліпу было не да сьмеху: мяшок круп на куцьцю сьпераду, мяшок пшэннай мукі ззаду, пад рукамі і ў руках цэлы шнур цыбулі, колькі вялізных рыбін у паперцы і іншая, патрэбная толькі ў гаспадарцы і толькі дзеля гаспадынь, драбяза.

Ня гледзючы на мароз, Піліп быў спацеўшы, але... як ужо ахвяраваўся, дык цягнуў лямку да канца. Слухаючы апавяданьні жанчыны ён шмат чаму дзівіўся.

Гэтак, калі верыць ейным словам, дык ён у пярэднім мяшку нясе, ня крупы а... ні больш ні менш — кашу!?

— Якая-ж каша, калі тут, васпанічка, звычайныя пэрловыя крупы? — казаў Піліп, шчупаючы недаверчыва мяшок.

Жанчынка была чыстакроўнай віленскай полькай; але ўмела добра пабеларуску..

— Папольскаму „кашай“ завуцца крупы! — тлумачыла яму.

— Яны-ж яшчэ ня звараныя! — не згаджаўся Піліп.

— Усё роўна кашай завуцца!

— Дык тады і ў тым мяшку, што на плячох ня пшонная мука, а проста бліны, ці булкі, ці клёцкі? — ня ўнімаўся ён.

Урэшце супакоіўся. У духу пацешаў сабе, што пальто ягонае не прамокне сьпераду ад „кашы“ і не зашмальцуецца ззаду ад бліноў ці клёцак...

Ішлі, аддыхалі і ізноў ішлі...

На вуліцы Мастовай мела яна кватэру. Дайшоўшы да ганку свайго, — прыстанавілася, не даючы яму нават у калідор зайсьці.

— Ну, дзякую пану Піліпу за падмогу! — прамовіла яна — не хачу „васпана“ лішне трывожыць — сама занясу!

Узяла ад яго пакункі і ўжо пераступала парог, калі ён загамавіў:

— Паважанай васпані вядома мусіць, што я адзінокі?

— Канешне... Ну, а што?

— Куцьцю хацеў сумесна з знаёмымі па хрысьціянску спатыкаць, каб... з вамі?.. Грошы патрэбныя на гэта даў-ба...

Аднаму маркотна, панічка, як ваўку...

Яна задумаўшыся патупіла вочы.

Піліп просючым голасам цягнуў:

— ...І аплаткі маю, дастаў ад ксяндза, ня трэба-б вам клапаціцца...

Маладзіцы дакучаў ціжар; нецярпліва парушыла яна плячмі і пачала была казаць:

— Што-ж зрабіць?... але, зірнуўшы на ягоны няпрыгожы, курносы, з буркулаватымі вачыма твар — спынілася. Думкі кінуліся другою дарогай: Гэткае — думала сабе — страхоцьце! Надта патрэбны!... Яшчэ дзяцей перапужае. Ведала яна апрача таго, што Піліп быў праўдзівым абжорай (знала яго ўжо некалькі год), дык добра раздумаўшы, парашыла:

— Мы з мужам вас натда глыбака цэнім, але... на жаль... ужо шмат запрошана... за сталом будзе аж дванаццаць душ!... трынаццатым быць у нас пану — ні тое ні сёе.., неяк не выпадае!... Выбачайце, але што-ж зрабіць?! не магу!

Піліп стаяў як, памыямі абліты! Спацеў, нясучы ейныя клумкі, даваў грошы, аплаткі, прасіўся!... і ані блізка! за адзін стол не згадзіліся пасадзіць з сабой... кажа „будзеш трынаццатым“!

Задумаўшыся моцна ён на’т не заўважыў, як жанчынка адыйшла да сваей кватэры.

Плюнаў Піліп з вялікай прыкрасьці, зышоў з ганку і пакіраваўся дамоў.

Ня было больш нікога такога, да каго можна-б было прасіцца на сумесную куцьцю, больш ня меў знаёмых!

А добры гэта быў чалавек: вызначаўся набожнасьцю; любіў памагаць бяздомным і калекім; хоць куды быў чалавек! але... тварам брыдкім сваім Піліп адстрашаў ад сябе ўсіх; ня мог ён мець праз гэта і добрых знаёмых, асабліва, сярод жаночнага роду. З гэтае-ж прычыны ён не жаніўся і ўсё яшчэ дзяцюком зваўся, хоць сорак гадоў стукнула яму вясной.

На дварэ рабілася цёмна...

Мароз узнімаўся і пачынаў прабірацьда касьцей! Піліп паддаў ходу, скорчыўся і схаваў твар у каўняры пальта.

Жыў ён аж на Кальварыйскай вуліцы. Праходзючы каля прыгожых крамных выставаў ён усёткі станавіўся і ўзіраўся, дрыжучы ад сьцюжы.

„Няма чаго і дамоў рупіцца“ думаў ён: „пустая кватэра, ніводнае душы...“

На вуліцах тым часам рабіліся пусткі, за тое з кожнага бадай ваконца вясёленька выбівалася сьвятло. Людзі ня спалі, а збіраліся да стала, каб у сямейным коле есьці „куцьцю“. Піліпу зрабілася надта маркотна — сумна на душы.

— Я толькі адзін! вырвалася з хворага, пакрыўджанага людзьмі сэрца.

Прайшоўшы Зялёны мост падымаўся ён па Кальварыйскай... Раптам дзьве маладыя дзяўчыны заступілі яму дарогу... сьмяюцца — ня пускаюць! Адна жорсткім, напаўп’яным голасам крыкнула:

— Што-ж пан блутаешся сам, як у пекле Марка?!

Але Піліп нічога не адказаўшы, ішоў далей.

— Мусіць на куцьцю рупіцца.. адазвалася другая больш цьвярозая: — Ня ўсе гэткія, Мартачка, як мы — бяздомныя...

Далі яму дарогу і адыйшлі, трымаючыся пад ручку.

Піліпу здалося, што апошнія словы дзяўчыны мелі ў сабе нейкую жальбу; ён прыстанавіўся і глянуў усьлед ім... Яны патроху аддаляліся і здавалася яму, што ўсё яшчэ жалюцца адна аднэй на долю...

Сэрца меў чулае..., сьціснулася яму яно ад жалю і — пабег за імі.

Дзяўчыны былі ўжо ля Зялёнага мосту, — дагнаў!

— Эй! ці чуеце, паненкі? пачакайце! — казаў ён задыхаўшыся. Яны прыстанавіліся, абярнуліся...

— Ці хочаце вы са мной куцьцю па хрысьціянску адбыць? Успомніць дзіцячыя годы? — запытаўся Піліп.

— А гарэлка будзе? — перапыніла п’яная; другая, просючы яе супакоіцца, загаварыла прыхільна да Піліпа:

— Пан на куцьцю нас да сябе?...

— Ну, вядома! — адказаў Піліп — ёсьць аплаткі... зварым куцьцю з круп, будзе перакуска...

— А гарэлка? — перабіла ізноў п’яная Марта.

— Будзе і гарэлка! — успакоіў яе Піліп. Вярнуліся ўсе і ішлі па Кальварыйскай. Дарогай Піліп забягаўся да крамаў і запасаўся ўсім, патрэбным.

Увайшлі нарэшце у кватэру ягоную; запаліў Піліп лямпу, і пачаў сумесна з трэзваю Вікцяй рыхтаваць вячэру.

У ход пайшоў „прымус“.

П’яная Марта, ходзючы па кватэры, то чупурылася і корчылася прад люстрам, то перакулівала зьнячэўку ўслоны і сталы. Разбіўшы гэткім парадкам некалькі талерак, яна ўрэшце, паклалася на ложку і пакачаўшысь крыху па пасьцелі, неўзабаве заснула.

Піліп з Вікцяй працавалі далей. Каля гадзіны адзінаццатай стол быў ужо поўны ядоміны, пад абрусом было сена.

Разбудзілі Марту. Доўга цёрла яна вочы, гаворачы нешта нявыразнае, але, як ачухалася, ды як убачыла на стале ўсячыну дык зараз ухапіла бутэльку з гарэлкай... Аднак Піліп з Вікцяй адбаранілі яе ад грэху. Вікця ўпрасіла яе, каб „на міласьць Боскую“ трымалася парадку ня псавала куцьці.

Піліп уголас памаліўся шаптала разам з ім і Вікця. Марта дзіка азіралася, ня могучы як сьлед прачухацца ада сну і гары.

Піліп узяў аплатак і падзяліўся з аднэй і другой. Спажываючы аплатак ён прасіў Бога, каб і на другі год дазволіў ім гэтак сама разам, спатыкаць сьвята... Вікця была аднэй з ім думкі, а Марта нешта недарэчнае барузьдзіла, пазіраючы на гарэлку.

Зьеўшы кашу, узяліся за гарэлку і іншую, даволі багатую перакуску.

Ніхто іх ня падганяў, ніхто не прасіў іх пачакаць: былі яны самі сабе паны, дык пілі ды елі, пытаючыся толькі наўзаем: ці досіць, ці можа яшчэ? бо асабіста кожны з іх згубіў ужо сваю меру...

---

ЭМІЛЬ ЗОЛЯ.

# ПАВОДКА.

(Пераклад з францускага **Л. М.**).

I.

Я называюся Людвік Руб’ё. Маю шэсьцьдзесят гадоў. Радзіўся ў вёсцы Сэн-Жары*) над Гароннай. Сорак гадоў вёў я барацьбу з зямлёй, каб мець кусок хлеба. Нарэшце дачакаўся пацехі: у апошнім месяцы быў найбагацейшы гаспадар у воласьці. Дом наш, здавалася, атрымаў багаславенства. Шчасьце расло, сонца было нам братам, і я ўжо ня прыпамінаў ні воднага благога збору. Было нас на фэрме амаль што ня тузін і ўсім было добра. Тут быў я, ўжо старэйшы чалавек, што кіраваў дзяцьмі на рабоце, потым мой малодшы брат Пётра, стары дзяцюк і даўнейшы сяржант, далей мая сястра Агата, каторая перайшла да нас па сьмерці свайго мужыка, кабета высокая, статная, разумная і вясёлая; яе сьмех чутны быў аж у канцы сяла. Потым ішло ўсё наша гняздо: мой сын Якуб, яго жонка Разаля і трое іхніх дзяцей — Эмэ, Вэроніка і Марыля. Першая ўзяла сабе за прымаку Цыпрука Буісона, вясёлага хлопца, ад якога мела двух малых: аднаму было два гадкі, другому дзесяць месяцаў. Другая была заручана і мелася выйсьці замуж за Гаспарда Рабюто. Трэцяя, нарэшце, выглядала сапраўднай паненкай: такая беленькая і такая далікатная, што здавалася быццам радзілася яна не ў сяле, а ў месьце.

Гэтак было нас дзесяць душ. Я быў дзедам і прадзедам. Калі мы садзіліся за сталом, з правага боку ў мяне сядзела сястра Агата, брат Пётра — злева, дзеці — сьцягам кругом стала па старшынству, галава ў голаву, аж да пісклянаці ад дзесяці месяцаў, якое ўжо ела як старое. Трэба было відзець, як лыжкі лятал̈і на талерках. Гняздо любіла добра пад’есьці. Весяла грызлі. Я чуў радасьць у жылах, калі якое малянё цягнула да мяне ручанькі і крычэла:

— Дзедка, дай-жа мне хлеба... толькі вялікую лусту, добра дзедка?...

Май гэнага году быў надта харошы. Ужо даўно ня відзелі мы такіх добрых усходаў. Якраз таго самага дня пайшлі мы з сынам Якубам паглядзець на поле. Выйшлі каля трэцяй гадзіны. Сенажаці нашыя на берагу Гаронны зарасьлі травой, яшчэ мяккай, на тры стапы вышыні, а на латцы, што летась ачысьцілі, трава падымалася да мэтру. Адтуль пайшлі мы каля жытаў і віннякоў. Шнуры гэтыя скуплялі мы год-за-годам, як ставала грошы. Жыта было густое, віннякі скрось зацьвілі, была надзея на добры ўраджай. Вярнуўшыся, абыйшлі мы шнуры на другой старане сяла. Морвы выглядалі надзіва, таксама і мігдалы. Мы вясёла гутарылі паміж сабой і будавалі праэкты далейшай гаспадаркі. Як зьбярэм грошы колькі трэба, купім сабе адзін кавалак зямлі, згонім усе шнуры ў адно месца. Будзем мы тады гаспадарамі цэлага кутка ў воласьці. Ураджай гэтага года, калі добра датрымае, здзейсьніць нашае лятуценьне. Як мы падходзілі да сяла, Разаля здалёку махала на нас і крычэла:

— Ідзеце хутчэй дамоў!

Гаспард, дзяцюк Вэронікі, прыйшоў да нас каб умовіцца, калі будзе вясельле. Разаля затрымала яго на абед. Гаспард, старшы сын гаспадара з Маранжа, быў высокі, двацацёх гадоў хлапчына, вядомы ўсім з сваей сілы, але разам з гэтым добры, залатое сэрца, ціхі, а нават сарамязьлівы, бо калі Вэроніка глядзела яму проста ў вочы, ён чырванеў.

Я загадаў Разалі клікнуць яго. На падворышчы памагаў ён чалядніцам вешаць хусты, якія сабраліся за апошні квартал. Калі ён паказаўся ў сталовым пакою, дзе былі мы, Якуб павярнуўся да мяне і сказаў:

— Гавары тата!

*) У паўднёвай Францыі.

## Князь Вітаўт.

Там за гарамі, там за лясамі,
Дзе слаўна Вільня стаіць,
Там пад старымі, там пад мурамі
Грозны дух Вітаўтаў сьпіць.

Ціха, ціхутка, у тым падзямельлі
Лямпа лаёва гарыць,
Лямпа лаёва ў мнішае кельлі,
А побач — Вітаўт Князь сьпіць.

Нераспрануты і неразуты,
Зброя на Князю блішчыць.
Дзьверы да кельлі моцна замкнуты,
Рыцар пры клямцы стаіць.

Вус як кудзеля, зрок пяруновы,
Молат руку яму гне...
У дзьверы кельлі кожны Год Новы
Моцна тры раза ён б'е.

Моцна тры разы б'е ў дзьверы кельлі,
Ўходзіць і гасіць сьвятло
І справазданьне чуць ў падзямельлі:
«Столькі гадоў уцякло!»

Князь без адказу правай рукою
Знак дае выйсьць, а сам сьпіць:
Рыцар да лямпы ўлівае лою
Паліць вагонь і... стаіць.

Ціха, ціхутка, там пад зямлёю,
Дзе сьпіць наш Вітаўт ваяк,
А над мурамі, а над гарою
Вісіць няволянькі знак.

*Фр. Грышкевіч.*

Было ўжо далёка за поўнач...
Вясёла зрабілася Піліпу з Вікцяй: апавядалі адзін аднаму пра свае дзіцячыя гады, пра куцьцю спраўляную калісь у бацькоў... Краталі і іншыя пытаньні.

Рады былі адзін аднаму.
Вясёла было мусіць і Марце, тольькі яна інакш выяўляла сваю вясёласьць: добра падпіўшы, пачала яна танцаваць па пакою, задзіраючы рукі і ногі ў гору; пяяла яна ня дужа прыгожыя песьні падчас на'т і лаючыся, вядома п'яная, але-ж ніхто і ня слухаў.

Піліп быў заняты ўжо больш важнаю справай: ён упадабаў Вікцю, бачучы, што натура тэй ня зусім сапсаваная. Зьмяркаваў ён так-жа што яна хоча і можа быць добрай гаспадыняй.

Асьведчыўся ей... прызнаўся, што не адтаго, каб ажаніцца.

Вікця згадзілася, бо аценіла яго добрае сэрца...

Ужо сьветала... На небе палілася заранка. Нарадзіўся на сьвет Хрыстус... Нарадзіліся да новага добрага жыцьця і Піліп з Вікцяй.

Яны адгулялі адначасна куцьцю і свае заручыны...

А Марта, як і раней, хадзіла, блудзіла п'яная па вуліцах Вільні, кідаючыся самахвоць на праходзючых мужчын, жадаючы быццам знайсьці паміж іх і для сябе добрага сэрцам мужа... *А. В.*

## Аб нашай мове.

(Канчатак).

IV.

Паглядзімо-ж цяпер, як-жа наша мова разьвівалася гістарычна. Паміма волі пры гэтым успамінаюцца словы нашага песьняра Васіля-Васілёк.

„Слаўна наша прошласьць! мову шанавалі,
Не чуралась ёю Польшча і Літва,
У ёй прававаліс, кнігі ў ёй пісалі,
Быў час, не чуралась ёю і Масква“.

Так гісторыя сьцвярджаець гэта фактамі. Гісторыя кажа, што да XIII стагодзьдзя наша мова нічым асобным не выдзелялася.

Толькі з XIII стаг. настае для яе залатая пара. У гэты час будуецца вялікае княства Беларуска-Літоўскае. Беларусы, як болей культурны элемэнт, адразу займаюць адказныя становішчы ў новым гаспадарстве. Беларуская мова робіцца мовай дзяржаўнай: у ёй пішуцца законы, афіцыяльныя дакумэнты. У нашай мове пашыралася і культурная праца таго часу: пісалісія летапісы і другія творы слова, друкаваліся кнігі; пабеларуску гавораць і ў полацкага вялікага князя. У наступных стагодзьдзях: XIV, XV і XVI, нашая мова робіць далейшы поступ. У беларускай мове выдаецца цэлы сьцяг юрыдычна-праўных зборнікаў; нашай мовай цікавіцца і духавенства, асабліва каталіцкае, зьяўляецца духоўная, беларуская літэратура. Агулам кажучы, нашая мова — гэта мова навукі і культуры. Так пры Казіміру I Ягайлавічу ў 1457 г. выходзіць у беларускай мове грамата, вядомая пад назова „Земскія прывілеі Казіміра“ (юрыдычна-праўны зборнік). Праз 11 гадоў у 1468 г. Казімір Ягайловіч, выдае другі дзяржаўны акт таксама ў беларускай мове, вядомы пад назовам Статута, або Судзебніка.

У друцой палавіне XV стаг. і першай цьверці XVI стаг. гэты статут, дапаўняецца новымі граматамі, пастановамі, пакуль не вырастае ў абшырны і поўны кодэкс законаў, для Літвы і Беларусі, пад назовам „Статут Вялікага Князьства Літоўскага“.

Статут гэты выхадзіў у трох рэдакцыях: у 1566 і 1588 г. г. Усе тры рэдакцыі выходзілі у беларускай мове. Гэта паказуе, што ў тыя часы наша мова была не „мужыцкая“, а мова дзяржавы, культуры. Што гэта так, а не іначай паказуе выпіска са статуту: „Пісар земскі маеть по руску літерамі і словы рускімі, усе лісты, выпісы і позвы пісаці, а не іншым языком і словы“. Значэньне гэтага статуту для нашай мовы было вельмі вялікае. Палякі, перакладаючы яго на сваю мову, часта цалком бралі беларускія словы; урэшце, з беларускай мовы карысталі і Палякі нашаго краю, пішучы судовыя назовы і розныя акты і ізноў прысвоівалі беларускія словы. Пісьменства ў беларускай мове, асабліва пашыралася ў другой палавіне XV стаг. Першая беларуская друкарня была заложана ў самым сэрцы Польшчы — Кракове (1483 г).

У тым-жа самым годзе з гэтай друкарні выйшла першая беларуская кніга: „Трыод цветная“, а ў 1491 г. выходзіць і другая беларуская кніга: „Окта“. З духоўнай літэратуры, асабліва каталіцкай, да XV стаг. трэба аднясьці гэткія творы: „Мука Хрыстова“ і іншыя. Усе гэтыя кніжкі дахаваліся ў рукапісах, напісаных славянскімі літэрамі (знах. у Пецярб. публ. бібліот.); мова мясцамі вельмі прыгожая, часам яркая і абразовая, а што найважнейшае—чыста беларуская. Праўда, што ў гэтым часе сярод вышэйшых беларускіх станаў, робіць свае уплывы лацінская і польская мова і культура. Але сярэдняя шляхта, мяшчанства, сяляне моцна трымаюцца беларускай мовы. На беларускую кнігу істнуець вялікае патрабаваньне.

У канцы XV стаг. беларускія друкарні пазакадзены ў розных мясцох Беларусі, як напр.: у Вільні, Полацку, Менску, Нясьвежу, Любчы, Заслаўі, Слуцку, Пінску і інш. местах. Шаснаццатае стаг. прыносе на Беларусь рэформацкі рух. У сувязі з гэтым шпарка пашыраецца беларускае духоўнае слова. Так у 1517 г. доктар Ф. Скарына, друкуе на беларускай мове Біблію, Псалтыр, канонік і інш, творы. Гэтымі творамі шырока карыстаецца і Масква. Васіль Цяпінскі перакладае на беларускую мову Эвангелію. Гэты вялікі патрыёт Беларусі, ужо тады адчуваў патрэбу школы ў беларускай мове. У прадмове да сваёй Івангеліі, ён бядуе аб тым, што некаторыя з Беларусаў „у польскія школы, або іншыя, сябе і дзяцей бяз встыду заправуюць“. З іншай духоўнай літэратуры можна адцёміць хоць гэткую: „Рукапісны псалтыр XVI ст. (знах. у Румянцаўскім музэі) „Біблейныя кнігі, пераклад з гебрайскай мовы (Віленск. пуб. бібл.) Апісаньне і абарона берасьцейскага сабору“, „О паправе календара“, друкавана ў Рыме, з перакладам на белар. мову. „Флорэнская вунія“, рукопіс (знах. у Ватык. бібліат.) і шмат іншай.

Вунія Польшчы з Літоўска-Беларускім Гаспадарствам у 1569 г. прыносіць вялікі ўдар беларускай мове. Беларуская мова, ступянёва замяняецца польскаю. Беларускія паны, дзеля карысьці, кідаюць усё роднае, беларускае і бяруць новае, чужое, польскае. Усё менш і менш астаецца беларускіх паноў. Але доўга яшчэ на Беларусі і Ліцьве势 пануець беларуская мова, як дзяржаўная, урадавая. Напасьледак было сказавана і гэта. Варшаўскі Сойм у 1697 г. выдаў гэткую пастанову аб нашай мове: „pisarz powinien nie po rusku a po polsku pisać“. Гэта пастанова азначала сьмерць беларускай мове ў дзяржаўным і грамадзкім жыцьці. Нашая мова асталася толькі сярод „мужыкоў“. Жыве яна яшчэ і ў духоўным жыцьці. Каталіцкі касьцёл на Беларусі ўжываець нашу мову да 1839 г. Царскім указам (Міколай I) было забаронена ўжываць беларускую мову ў касьцёлах, песьнях, малітвах.

Не гледзячы на гэтую забарону, у Віленскай дыецэзіі ў 1858, а ў Варшаўскай у 1861 г. яшчэ выдаюцца беларускія катахізмы. Рэвалюцыя 1905 г. а пасьля Вялікая Расейская Рэвалюцыя 1917 г. ускалыхнула беларускі адраджэнскі рух і нашая мова ізноў уваскрашаець сваю даўнейшую славу, а літэратурна разьвілася гэтак, што ўстала на роўні з заходня-эўропэйскімі мовамі.

V.

З выжэйнапісаннага ясна, што наша мова ніколі ня была мовай, як кажуць мёртвай. А калі яна за апошнія 300—200 год не разьвівалася, то гэта грэх, грэх цяжкі нашых вышэйшых беларускіх устаноў, каторыя як Іуды прамянялі сваю веру, абычай, культуру, мову на чужацкае, а карыстаючыся сваім прывеляваным палажэньнем, не давалі магчымасьці нашай мове свабодна разьвівацца.

Але цяпер мы, Беларусы, як адзін павінны паўстаць для абароны праваў сваёй мовы, яе гонару. Беларуская мова ў школе, судзе, касьцеле, беларуская мова ўсюды, няхай будзе нашым лёзунгам! *К. М — ч.*

— Гэтак значыць? Дык ты, сыну, пэўна прыйшоў, каб угаварыцца ў які дзень будзе вясельле?

— Але дзеля гэтага, бацька Руб'ё, адказаў той, і шчокі яго пачырванелі.

— Ня трэба, сыну, стыдацца, гаварыў я далей, гэта будзе калі хочаш на св. Фэліцыю, дзесятага ліпня. Сягоньня маем дваццаць трэцяга чэрвеня. Чакаць ня трэба будзе і дваццацёх дзён. Мая нябошчыца жонка звалася Фэліцыя, гэта вам прынясе шчасьце. Добра будзе? Згаджаешся?

— Добра, няхай будзе так, як кажэце, бацька Руб'ё, у дзень св. Фэліцыі.

І ён ударыў нас з Якубам па руках, дый так моцна, што, здавалася, мог-бы гэтак вала забіць. Потым абняў Разалю і назваў яе сваей маткай. І гэты дыдаль з вялізарнымі кулакамі любіў да памяшаньня Вэроніку. Ён нам прызнаўся потым, што захварэў-бы калі-б мы яе не аддалі.

— Цяпер, дабавіў я, аставайся з намі абедаць, добра?... Тады ўсе за стол, увесь мір!

У гэты вечар у нас за сталом было адзінаццаць душ. Гаспарда пасадзілі разам з Вэронікай і ён ня спускаў з яе вочаў, забыўся нават аб свай талерцы; гэтак узварушаны пачуцьцём, што яна належыць да яго, што аж-но слёзы накатваліся яму ў вачох.

Цыпрук і Эмэ, ўжо трэці год як пажаніўшыся, ўхмыляліся спадцішка. Якуб і Разаля, якія пражылі ўжо гадоў дваццаць пяць захоўваліс сур'ёзна, аднак і яны патайком пераглядаліся між сабой расчуленым паглядам. Я сам, здалося аджыў у гэтай закаханай пары, якіх шчасьце замяніла наш стол у райскі куток. Смачная была страва ў гэты вечар! Я прынёс са склепу дзьве бутэлькі пераваранага віна. Выпілі за ўдачу Гаспарда і Вэронікі. У нас гавораць: для маладых удача—гэта ня біцца, мець як найбольш дзяцей і накласьці мяшкі грашмі. Потым запелі. Гаспард знаў дрындушкі. У канцы папрасілі спяяць Марылю; яна ўстала, голас мела як у флейты, такі далікатны, што проста казытаў вушы.

Аднак я ўстаў і падайшоў да вакна. Да мяне прыблізіўся Гаспард, я запытаўся яго:

— Што-ж у вас чуваць новага?

— Нічога, адказаў ён. Гавораць пра вялікія дажджы, што былі апошнімі днямі. Кажуць, што гэта можа нарабіць бяды.

Сапраўды, надовячы ліў дождж праз гадзін шэсьцьдзесят не перастаючы, і ад учора Гаронна шмат прыбыла.

— Слухаць! сказаў я паціскаючы плячамі. Няма чаго баяцца, што год гэта здарэньне бывае. Рэчка нашарасьціцца нібы разлаваўшыся на каго, а потым праз ноч сціхне і стане ласкавая бы ягнё. Пабачыш, сыну, і гэтым разам будзе яшчэ сьмеху... Пачакай, відзіш як распагадзілася!

І я паказаў яму рукой на неба. Была сёмая гадзіна. Ах, якая сінь! Неба было з аднэй сіні. Сіні вялізарны абрус, гэтакі чысты, па якім заходзячае сонейка, плыло бы залаты кружок. Ніколі ня відзеў я каб сяло наша было ў такім супакоі. Тымчасам я вярнуўся на сярэдзіну пакою. Дочкі нашы шчабяталі. Мы слухалі іх і ўсьмехаліся, калі неўспадзеўкі сярод супакою пачуўся крык, крык бяды і сьмерці:

— Гаронна! Гаронна!

(Далей будзе).

*Віленскіх падпішчыкаў просім прыслаць да 10-га студня належныя за газэту грошы.*

